Ў нумары: Заўсёды ў страі | Беласток, якога не ведаем | Максім Танк: НА МОСЦЕ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 36 (393) | ГОД VIII | 8 ВЕРАСНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР




ВІКТАР РУДЧЫК

## КЛЯЙМО: ВАР'ЯТ

Харошча. Яе ведае хіба кожны жыхар Беластоцкага ваяводства.

**Ведае? Што менавіта ведае?**

Пачуўшы назву гэтай мясцовасці не адзін, хітравата прымружыўшы вочы, адазвецца так:

— Харошча? Вядома! Гэта ж... Не, не дакончыць ён сваёй фразы, не скажа, што думаў, але замест слоў пачастуе вас халоднай, спачувальнай усмешкай, застыўшай на скрыўленых губах ды яшчэ надабавак — каб усё было ясна — некалькі разоў пастукае пальцам па ілбе. Гэты вымоўны, шматзначны жэст не астаўляе ўжо ніякіх сумненняў.

Адзін з працаўнікоў дзяржаўнай бальніцы для псіхічна і нервова хворых у Харошчы расказваў мне пра такое вось здарэнне:

— Стаю я аднойчы ў чарзе за аўтобуснымі білетамі. За мною нейкі грамадзянін. З выгляду, сказаў бы, ён інтэлігент. Прашу ў касіршы білет у Харошчу. Касірша не дачула.

— Куды? — пытае мяне.

— Да вар'ятаў! — са з'едлівай усмешкай крычыць на ўсё горла гэты, з божай ласкі, інтэлігент, выцягваючы шыю з-за маіх плеч.

Хто тут вар'ят?

Праходзячы побач нейкай нармальнай бальніцы, у кожнага з нас на верх усіх пачуццяў перш за ўсё выплывае спачуванне. Шчыра спачуваем людзям зняможаным нейкай хваробай. Хопіць аднак успамянуць аб Харошчы, а спачуванне расплываецца як вада. На яго месца прыходзіць з'ед-

Працяг на стар. 4)

## ПЛЁН НЯСЕМ НАШ ПЛЁН

...у свае, сялянскія свіраны, у дзяржаўныя магазіны — нясем мы, сяляне, сыны чорнай нашай зямлі. Сыплецца збожжа залатымі струменнямі. Плён нясем, наш плён. Радасць безупынных шматмесячных змаганняў.

Цяжкая праца сялян, ды яшчэ прырода, бы на злосць, занаравілася. Прошлы год ад вясны да восені безупынна ліў дождж. Выгніла бульба, не ўзышла ярына. Пад вадой стаяла сенажаць. У гэтым годзе наадварот. Бязлітасна пражыла сонца. Толькі што скасілі сяляне траву, а ўжо на вачах даспявала жыта. авёс, пшаніца, ячмень. Стары парадак перавярнуўся ўверх нагамі Адначасова прышлося брацца за ўсё. А спякота стала такая, што босай нагой не ступіць было на зямлю. Гарэў лес, гарэў торф, гарэлі сенажаці. засохла бульба, змарнелі буракі. Усё, быццам спрысяглося, каб дашчэнту знішчыць селяніна Але ён не пакарыўся ні дажджу, ні сонцу. Можа ганарыцца славай пераможцы.

Паказчыкі ўраджайнасці — гэта астатковы і, зразумела, найважнейшы вынік усебаковай працы сялян. Цяжкай працы, хаця ўсё больш і больш аблягчае яе розная сельскагаспадарчая тэхніка. У распараджэнні толькі адных сельгасгурткоў Беластоцкага ваяводства знаходзіцца зараз 1013 трактараў з поўным камплектам дабавачных машын. 2—3 гады таму трэба было цярпліва і доўга пераконваць нашых сялян. каб захацелі ўзяць трактар. Цяпер сяляне просяць, прысылаючы дэлегацыі ў Ваяводскае праў-

(Працяг на стар. 2)



АЎГУСТОЎСКІЯ ВЕЧАРЫ

Фота: К. ЛЕС

**Беласток, якога не ведаем**

СТАР. 3

Фота: К. ЛЕС



МАКСІМ ТАНК

## НА МОСЦЕ

Дождж.
        восеньскі дождж.
А я твой парасон
Сярод тысячы іншых пазнаю,
Стук збцасаў, ледзь чутны,
І ў шуме штодзённым адрозню.
Цень твой нават,
Заплюшчыўшы вочы, адчую.

Знаю, што ты спяшыш
На сустрэчу з другім,
Пераходзячы плошчы
Чакання майго,
Прабягаючы вуліцы
Крыку майго
І масты,
Замініраваныя маёй роспаччу.

На адным з іх
Спыніўся.
        стаю
Ў золкі восеньскі дождж,
Чакаю выбуху,

# Беласток

# Якога не ведаем





Беласток — сталіца ваяводства. Калі ідзе гутарка аб ім, як звычай уяўляем сабе новыя кварталы, шырокія вуліцы, прыгожыя дамы, скверы. І слушна. Як не кажы, а ўсё ж горад 130 тысяч жыхароў, культурны цэнтр Беласточчыны, шпарка растучай навейшай прамысловасці. Таму нічога дзіўнага, калі людзі, якія год-два не пабывалі ў Беластоку, здзіўляюцца незвычайнымі тэмпамі яго сучаснага будаўніцтва і росквіту.

У штодзённым жыцці мы нейк не прыкмячаем зусім іншага, старога Беластока. Беластока — вёскі. А ён існуе, жыве сваім вясковым жыццём, са шматлікімі тыпова сялянскімі турботамі і клопатамі. Не верыце? Калі ласка, прыкладамі можна сыпаць як з рукава.

У самым Беластоку налічваецца 2880 індывідуальных гаспадарак. Знайдзіце другую вёску на Беласточчыне, якая б налічвала столькі гаспадароў. Значыць, Беласток — гэта найбольшая вёска ў ваяводстве. Беластоцкія сяляне па-свайму характару працы зусім не адрозніваюцца ад клейнікіх, нававольскіх ці рыбалаўскіх. Яны вырошчваюць жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, бульбу, а нават рапс і цукровыя буракі. Нядрэнна таксама развіваюць жывёлагадоўлю. У Беластоку налічваецца звыш 500 коней, каля 1000 кароў, 4000 свіней і 120 авец. Таму няма чаго здзіўляцца, калі на беластоцкай вуліцы сустрэнем фурманку наладаваную дровамі, саломай ці сенам. На гаспадарцы без гэтага не абыдзешся.

Асабліва адчувае сябе Беласток вёскай па чацвяргам, калі сотні фурманак з акалічных і адлеглых вёсак запоўняць яго рыначныя плошчы. Бываюць такія чацвяргі, калі ў Беласток з розных аколіц (з-пад Монек, Лап, Бельска, Міхалова, Саколкі) наедзе каля тысячы фурманак. На кірмаш. У такі дзень у Беластоку найбольш папулярным месцам стаецца рыбны і сенны рынак. Як не кажы, а ўсё ж гэта цэнтр горада. Побач традыцыйных беластоцкіх «галяў» прабягае адна з прыгажэйшых вуліц горада, вуліца М. К. Складоўскай, са сваімі дзесяціпавярховымі вежоўцамі. Пад «галямі» на рыбным рынку кішыць торг. Гуркі, капуста, бручка, рэдзька, рэпа, жыта, пшаніца, авёс, а нават сачэўка. Беласток усё закупіць. На кілаграмы. Колькі Беласток гадуе гусей, курэй, індыкаў ці качак, гэтага ніхто не ведае, а ім жа трэба даць есці. Гарадская гуска не то што вясковая. Ёй абы чаго не кінеш. Ад рыбнага рынку рукой падаць да сеннага. Густы шпалер спарахнеўшых буданаў «прыватнай ініцыятывы» сам завядзе цябе ў цэнтр кірмаша. У цяньку буданаў прыемна сустрэцца з сяброўкамі ды папляткаваць аб навінках апошняй моды. Калі цябе не цікавіць гэта, можаш адыйсці на бок і раскашавацца спортам. Маеш добрае вока, за паўтары залатоўкі падстрэліш сабе зайца, мядзведзя, або крывашчокага паяца. Кірмаш з атракцыямі! З шыкам!





Калі сонца перапаўзе паўднёвую вышыню, пара прымачыць перасохшыя гандлем раты. Рэстараны побач. Катэгорыя спецыяльная — для сялян. Тут адчувае сябе чалавек як дома. Але добры гаспадар, перш чым пайсці на шклянку, аб кані прыпомніць. Хто ж не ведае беластоцкай рыначнай вадапойні? Пры ёй за некалькі залатовак самага прагнучага каня задавольніш. А торг на сенным рынку прадаўжаецца доўга за поўдзень. Да апошняй заіржавелай бляшкі пад чаравік, да апошняга кажуха, курыцы ці кілаграма жыта.

Усё мае свой век. Аджываюць свой і беластоцкія «галі» з рыбным рынкам. Некалькі год таму назад новы зуб часу паласнуў іх здорава. Палову галяў ліквідавана. На месцы іх пралягла новая вуліца. У будучым годзе будзе ліквідавана другая палова. На месцы іх стане шматпавярховы «бюровец» будаўнічага прадпрыемства. Пад новымі будынкамі загіне і стары рыбны рынак са шпалерамі буданаў «прыватнай ініцыятывы». Новыя гандлёвыя галі будуць пабудаваны пры вуліцы Бэма. Далей ад цэнтра.



Аджывае свой век старая ваяводская вёска. Яе выціскае ўсё больш сучасны горад. Пройдуць гады, і па старым Беластоку як след застануцца мо' толькі гэтыя здымкі. Не шкадуйма яго. Так ужо ёсць на свеце, што старое не можа ўстаяць перад новым.

В. БАРШЧЭЎСКІ
Фота КОЛЯ ЛЕС



---

— Цяжкая будзе праца. Дык такіх маштабаў мы яшчэ з вамі не ведалі, га?

*

Праз тыдзень над Карлслустам з'явілася дзевятка савецкіх бамбардзіроўшчыкаў. Адно звяно, адлучыўшыся, учыніла ўдар па чыгуначнаму вузлу і дзвюм аўтамабільным дарогам, якія ішлі на Карлслуст з захаду. Апошнія самалёты абрушылі фугаскі на паўночна-ўсходнюю ўскраіну горада, дзе былі размешчаны ўсе вялікія аўтамабільныя базы. Бомбы замянілі іх у развалiны.

Дакладна праз дваццаць чатыры гадзіны налёт савецкай авіяцыі паўтарыўся. Апрацоўцы з паветра падвергліся склады гаручага, якія былі на той самай паўночна-ўсходняй ускраіне.

Разбіўшы цыстэрны з нафтай, самалёты зноў скінулі серыю фугасак на аўтабазы, а затым уляжылі каля дзесятка бомб у пустынным месцы — паміж горадам і лесам на беразе Эльбы, каля мосту і разгалінавання дарог.

Раніцай, адразу пасля першага налёта на горад, Аскер пазваніў у дзверы дома № 15 па Берлінерпляц. Увесь гэты тыдзень разведчыкі назіралі за домам; яны даведаліся прозвішча яго ўладальніка,

241

устанавілі, што ён адзінокі, упэўніліся, што Упіц і Зейферт выехалі з Карлслуста.

Адчыніў мужчына ў халаце, з фарфаравай трубкай у зубах.

— Я б хацеў пабачыць пана Карла Айпеля, — сказаў Аскер.

— Айпель перад вамі.

— Я з даручэннем ад генерала Зейферта.

Гаспадар дома саступіў убок. Аскер увайшоў.

— Пароль? — спытаў ён.

Айпель пайшоў да стала, выцягнуў з шуфляды абломак грабянца. Калі ён вярнуўся да госця, той рыўся ў кішэні. На секунду спыніўшы свой занятак, Аскер сунуў у рот сігарэту.

— Я не прывычны бамбёжкі. Мы ў здзіўленні...

— Але гэта іншыя машыны!

— Не можа быць!

— Савецкія. Сам бачыў.

— Тады трэба неадкладна звязацца з Тэдарам. Вы яшчэ?.. Гэта можна зрабіць толькі вечарам.

— Добра. — Аскер пахлопаў рукамі па кішэнях. — Дайце запалкі. Зараз я паведамлю адну важную вестку... Нас ніхто не слухае?

— Я адзін у хаце. — Айпель намацаў у кішэні халата пудэлка, дастаў запалку, запаліў яе, клапатліва прыкрыў агеньчык жменямі.

— Нічога, нічога, я сам...

Аскер працягнуў да агеньчыка рукі. Шчоўк! На запясцях Айпеля самкнуліся наручнікі.

(Працяг за тыдзень)

242

# Трыбуна чытачоў

## З ЖЫЦЦЯ БГКТ

### Сяброўскі вечар

13 жніўня г.г. ляўкоўскія самадзейнікі выехалі надвечар у в. Масева (Гайнаўскага павета) з п'есай «Міхалка», сваімі ўлюбёнымі песнямі на беларускай, польскай і рускай мовах, гумарамі і скетчамі.

Самаход імчаў па шашы. Было весела і неяк хацелася спяваць. Не дзіва, што ўвесь час плылі адна за другой песні.

Масева сустракала зыркімі агнямі, што ліліся з вузкіх шыбін акон. Мілагучныя пералівы гармоніка плылі з-пад пальцаў акардэаніста Аляксандра Леўчука і яны сцягнулі ў святліцу шмат людзей. Прыйшлі, не зважаючы на позні вечар, усе: старэйшыя, моладзь, дзеці. Зала была запоўнена гледачамі, якія купілі білеты па 5 зл. і 3 зл. Пачалося выступленне. Усім спадабаліся беларускія песні, якімі ляўкоўскія спевакі патрапілі падбіць сэрцы масяўлян. Трэба прыгадаць такія галасы, як Валі Саевіч і Марыі Рээнт. Песні ў іх выкананні суправаджаліся заўсёды бурнымі апладысментамі. Яны заўсёды актыўна ўдзельнічалі ў працы з моладдзю. Сярод моладзі ёсць, несумненна, многа талентаў, як Вера Рээнт, у выкананні якой «Чорнае мора» і «Ручнік» зачароўваюць гледачоў. У дуэце выступаюць дзве сястрычкі: Марыся і Люба Адамюк. У іх выкананні перад усім рускія песні. Хор налічвае 25 асоб, і ўсё гэта дзяўчаты і юнакі з Ляўкова, Ахрымаў і Лешукоў, члены гуртка БГКТ у Ляўкове. П'еса ўсім спадабалася і тут нельга забыць аб новых талентах і добрай ігры перад усім Шуры Адамюка, Ірыны Адамюк і Анатоля Несцерука. Выступленне мастацкага гуртка працягвалася больш дзвюх гадзін. Затым адбылася супольная маладзёжная патанцоўка. Моладзь Масева і яго акалічных вёсак супольна гулялі да позніх гадзін ночы. Навязваліся знаёмствы, размовы аб працы гуртка, аб новых выступленнях з гэтай вясёлай, жыццерадаснай моладдзю.

**Янка Цялушэцкі**
Ляўкова

### Лес кліча

На палявой дарожцы, што вядзе з вёскі Азярок (на Сакольшчыне) у лес, штодзённа сустрэнеш дзядулю. Старэнькі ён, згорблены. У дрыжачай руцэ кіёчак. Часам дзядуля ідзе сам, пільна ўзіраючыся ў лясныя кварталы. Часам наперадзе бяжыць сабачка з закручаным хвастом. А іншы раз дзядуля вядзе за ручку шасцігадовага хлапчука — унука Антося. Дзядуля штодзённа, як маятнік старыннага гадзінніка, робіць свой рэйс. Да лесу і назад у вёску.

Дзядуля — гэта стары ляснік з Азярка Аляксандр Кендысь. Леснікам ён служыў безупынна ад 1920 года. За гэты час яму знаёмымі, роднымі сталі ўсе лясныя сцежкі - дарожкі. Палюбіў лес чалавек і жыць без яго не можа. А постаць дзядулі нават для лясных звяроў знаёма. Калі ён зімою зойдзе ў лес з ахапкам сена, дык сарны амаль да самых рук падыходзяць. Інстынктам адчуваюць прыяцеля. Дзядуля ніколі лясных жыхароў не крыўдзіў. Усё, што ў лесе, для яго святое. Зараз дзядулі ўжо 80 год. Ён на пенсіі. Мог бы спакойна вылежвацца на прызбе, але не.

— Зашуміць лес, закалыша галінкамі, і не магу ўсядзець у хаце, — кажа дзядуля. — Здаецца, кліча мяне, запрашае. Ды ці ж мала каго па лесе шляецца, — дадае ён. — Той кіне акурак, а іншы яшчэ вогнішча распаліць. Няшчасце не спіць.

(вб)

### Грамадскі фонд будовы школ у Гайнаўскім павеце

Гадавы план збору грошай на СФБС у 1963 годзе сягае 1276 тыс. зл., а ад пачатку года да канца ліпеня б. г. выканана ў 72,2% і сягае 921,424 зл. У аналагічным перыядзе мінулага года дасягнута была сума на 4,6% меншая чым у бягучым годзе.

На падставе вынікаў рэалізацыі СФБС да гэтага часу трэба сказаць, што гадавы план будзе выкананы ў 100% на 1 лістапада 1963 года.

Павіннасці працаўнікоў, якія працуюць ва ўстановах, праводзяцца правідлова і з'яўляюцца большымі на 6,3% чым у мінулым годзе. Але павіннасці сялян на 2,6% ніжэйшыя ад мінулага года. Акрамя таго ў зборы грошай вылучыліся ГРН у Белавежы, Арэшкаве, Дубічах Царкоўных, Кляшчэлях, а таксама горада Гайнаўка, якія выканалі ўжо гадавы план звыш 100%. Ёсць і такія ГРН, у якіх зборы праводзяцца вельмі слаба. Да іх належаць Кленікі, Старакорніна, Ласінка, Семяноўка, Чаромуха і Трасцянка.

На ўвагу заслугоўвае дзейнасць школьных калаў СФБС, у якіх школьная моладзь гадавы план выканала ў 133,9%, а таксама прыватная ініцыятыва выканала гадавы план у 103,3%. У гэтым годзе найлепш выказалася рамяство, якое сваю павіннасць на СФБС выканала ў 120,6%.

Працаўнікі Прэзідыум Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы ўжо шмат разоў прымалі ўдзел у інкасах, якія праводзіліся на тэрыторыі Гайнаўскага павета.

**Язэп Казак**
Гайнаўка

### ЗАВАЛІДАРОГА



— Што можа рабіць конь, калі гаспадар жне авёс?

— Брыкае па выгане, — адкажаце.

Не кожны. Напрыклад, конь Мікалая Крыштаповіча з Піражкоў, Сакольскага павета, у той час, калі гаспадар цяжка працуе, шпацыруе сабе ў цяньку бяроз па шасе, што злучае Крынкі з Саколкай. Гаспадар не пакінуў каня без апекі. Яго апекун — ланцуг, якім прывязаў гаспадар каня да прышасейнай бярозы.

Ходзіць сабе Крыштаповічаў каштан уздоўж і ўпоперак шасы, а па ёй ганяюцца машыны. Аб выпадак не цяжка. Думаем, што з мэтай прадухілення дарожных выпадкаў з нядбайнымі гаспадарамі павінны знаёміцца прысудныя калегіі.

Тэкст і фота (вб)

### Малацьба

(Працяг са стар. 5)

ўцякаць перад смерцю, каб самому жыўцом не згарэць. Жар паўстаў невыносны навокал аж адзенне жаўцее і копціць на целе голым. Не да ратунку час прыбірацца... Вецер свішча, далёка нясе з сабою галавешкі, бы тыя ракеты, аб якіх у фільмах паказваюць.

Нахлынуў дождж праліўны, навальнічны, але кроплі, пэўна, высыхалі ў паветры не даляцеўшы да зямлі. Праз гадзіну па будынках адны фундаменты і трыбікі па малатарні засталіся, а касцей конскіх па «Сівай» не дагрэбліся...

Напэўна будзь, Сашанька! Яшчэ адна гэтакая справа ёсць. Ведаеш, тамтой малацільнік ходзіць — моліць не казаць міліцыі аб праўдзівай прычыне пажару, а каб налгаць каменданту пра іскру з коміна хатняга ў час гатавання абеду, што нібы да гумна іх ветрам прыгнала і не паспелі паабедаць, як загарэлася ўсянютка ў пагоду сухую, і ён страціў сваю новенькую малатарню з маторам першакласным...

Што ж маю рабіць — гаварыць, Сашачка?!

**АДОЛЬ КАСТРЫЦА**

### Солтысы без шыльдаў

У грамадскай радзе нарадовай у Шудзялаве, Сакольскага павета, солтысы не маюць шыльдаў. А калі каму спатрэбіцца па справе да солтыса, тады трэба хадзіць, шукаць, пытаць, дзе жыве солтыс. Здаецца, закон з 1958 года аб радах нарадовых забавязвае Грамадскія рады нарадовыя да таго, каб усе солтысы мелі шыльды чырвонага колеру. Аб гэтым павінна ведаць ГРН у Шудзялаве. Ужо час, каб солтысы не былі безіменнымі.

**Сцяпан Кузьма**
Шудзялава




Дарагое СЭРЦАЙКА!

Мне 15 год. Яшчэ я не скончыла пачатковай школы. Але мне і не вельмі хочацца вучыцца, я ж ужо дарослая, а на гаспадарцы не трэба многа вучобы, а вучыцца далей не маю здольнасцей.

Нядаўна я пазнаёмілася і пачала дружыць з Лёнем з маёй вёскі. Лёня ўжо пасля арміі. Я яго вельмі кахаю і не ўяўляю сабе, каб яго страціць. Нават не прызнаю таго, што Лёня ўжо кахаў вельмі многа дзяўчат, пакіне адну і ідзе да другой. Я задаволена, што ён выбраў мяне. І мне гэта хапае. Праўда, людзі трохі смяюцца, але што мне людзі ў параўнанні з Лёнем. Хаця Лёня любіць многа дзяўчат, аднак з адной мусіць жаніцца, а мо' гэтай выбранай буду я і таму не хачу з яго рэзігнаваць.

Але што зрабіць, як усведаміць майго бацьку, які не хоча аб гэтым слухаць. Прыгразіў мне вельмі сурова і не дае зусім спатыкацца з Лёнем. Але мы цяпер і так бачымся пакрыёму.

Парай, Сэрцайка, як пераканаць бацьку, што ён не мае рацыі, бо я кахаю Лёню.

**Лёля** з вёскі С
Сямяціцкага павета.

Дарагая **Лёля!**

Не ты маеш усведамляць бацьку, а ён цябе, і мае рацыю ў тым, што не дазваляе табе дружыць з Лёнем. Ты перш за ўсё павінна скончыць хаця пачатковую школу, дайсці да сталасці і тады думаць аб хлопцах. Няма пашто забіваць сабе галавы не сваімі справамі і смяшыць людзей. Набліжаецца новы школьны год і ты павінна ўжо падрыхтавацца да навукі.

Жадаю поспехаў у вучобе.

СЭРЦАЙКА

### Прыкладны чытач

Бібліятэка ў Чыжах (Гайнаўскі павет) мае больш як 250 чытачоў. Сярод гэтых чытачоў ёсць сапраўдныя кнігалюбы. Да іх трэба залічыць перад усім Янку Петручука. За мінулы год прачытаў ён 62 кніжкі на рускай, польскай і беларускай мовах. Бібліятэкарша Валя Рубчэўская надта задаволена з гэтага чытача, таму што ён сваімі расказамі змесату прачытаных кніжак заахвочвае іншых сялян цікавіцца мастацкай літаратурай.

мх.

## КІНО

ПРАГРАМА на 10—15.IX.1963 г.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Gdzie rzeki błyszczą w słońcu" (czeski), 10—12. „Dwie sroki za ogon" (radz.), 13—15.

**Навасады**
„Lata bez marzeń" (węg.), 14—15.

**Нараў**
„Bariera ognia" (radz.), 11—15.

**Нараўка**
„Głos z tamtego świata" (pol.), 11—15.

**Чаромуха**
„Teresa Reguin" (franc.), 10—12. „Zmartwychwstanie" II s. (radziecki), 13—15.

**Чыжы**
„Spóźnieni przechodnie" (pol.), 11—15.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 11—15.

**Бранск**
„Mecz w piekle" (węg.), 10—12. „Smarkula" (polski), 13—15.

**Гродзіск**
„Ten, który wrócił" (radz.), 11—15.

**Орля**
„Ogniomistrz Kaleń" (polski), 11—15.

**Рэйск**
„Czas rozłąki" (radz.), 11—15.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Ocean Lodowaty wzywa" (czeski), 10—12. „Chłopiec z czarnego lądu" (angl.), 13—15.

**Міхалова**
„Kongo walczy" (radz.), 10—12. „Gangsterzy i filantropi" (franc.), 13—15.

**Супрасль**
„Poślubny rejs" (angl.), 10—12. „Kozara" (jugosłowiański), 13—15.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Trudne lata" (włoski), 10—12. „Dwie sroki za ogon" (radziecki), 13—15.

**Мілейчыцы**
„Zamek z bajki" (NRD), 10—12. „Niewidomy muzyk" (radziecki), 13—15.

**Нурэц**
„Chłopiec z czarnego lądu" (angl.), 10—12. „Gangsterzy i filantropi" (polski), 13—15.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Wesołe historie" (radz.), 10—12. „Sami na oceanie" (radz.), 13—15.

**Сухаволя**
„Księga dżungli" (angl.), 10—12. „Wielka, większa i największa" (polski), 13—15.

**Шудзялава**
„Pan i Astrolog" (czes.), 14—15.

**Сідра**
„Skradziono bombę" (rumuński), 10—12. „Czerwone berety" (polski), 13—15.

**Яваў**
„Syn skazańca" (angl.), 10—12. „Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 13—15.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 14—15.

**Новы Двор**
„Ukryte skarby" (czes.), 14—15.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-88, centrala 37-41 do 48.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-181 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie 5 $ — w USA.

Nakład 5458 BHR A3

